www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 13 (4162)**

14 лютага 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
*в* Twitter *www.twitter.com/narodnaya_volya*
*в* Facebook *www.facebook.com/nv.online.info*
*в* Vkontakte *www.vk.com/nvonlineinfo*

НА СВЯЗИ – БЕРЛИН

## Франк-Вальтер Штайнмайер – президент ФРГ

Он был единым кандидатом от блока ХДС/ХСС и СДПГ и набрал абсолютное большинство голосов уже в первом туре.

У других кандидатов на пост президента Германии просто не было шансов. В итоге исследователь из Кёльна Кристоф Буттервеге, выдвинутый Левой партией, набрал 128 голосов, популярный юрист, актер и телеведущий Александр Хольд, выдвинутый партией «Свободные избиратели», – 25 голосов, вице-председатель «Альтернативы для Германии» Альбрехт Глазер – 42 голоса, выдвиженец «пиратов» Энгельберт Зоннеборн – 1 голос.



### Нужно осознавать различие между фактами и мифами

Обращаясь к делегатам Федерального собрания, Штайнмайер отметил, что «мы живем в бурное время», когда особенно остро ощущается необходимость «осознавать различия между фактами и мифами». Говоря о сегодняшней ситуации в мире, политик даже обратился к классике. «Распалась связь времен», – процитировал он фрагмент из шекспировского «Гамлета». «Нам нужно мужество, чтобы сказать, что имеет место быть, а что – нет», – подчеркнул Штайнмайер.

По словам избранного президента, демократию не нужно воспринимать как слабость. «Свобода и демократия – это фундамент единой Европы», – резюмировал Франк-Вальтер Штайнмайер. Он поблагодарил проголосовавших за него и пообещал, что будет работать, уважая интересы как правящей коалиции, так и оппозиционных сил.

### Почти 20 лет в политике

Франк-Вальтер Штайнмайер родился 5 января 1956 года в городе Детмольд в федеральной земле Северный Рейн – Вестфалия. Он выходец из рабочей семьи. Карьера политика началась в команде Герхарда Шрёдера.

Штайнмайер руководил бюро Шрёдера, когда тот занимал должность премьер-министра Нижней Саксонии. После того как Шрёдер стал канцлером, Штайнмайер переехал с ним в Берлин, где сначала работал статс-секретарем федерального правительства, а позднее руководил ведомством федерального канцлера.

С 2005 года занимал пост министра иностранных дел Германии в коалиционном правительстве ХДС/ХСС–СДПГ. В 2007 году вступил в должность вице-канцлера ФРГ, был также лидером фракции СДПГ в бундестаге. После парламентских выборов 2013 года вновь возглавлял Министерство иностранных дел ФРГ. Об этом рассказано на сайте «Немецкой волны».

РАЗМОВА З ПРЭЗІДЭНТАМ



# З вока на вока



Учора ў мяне адбылася сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам. З вока на вока. Адзін на адзін.

Амаль трыццаць гадоў мінула з таго часу, як мы пазнаёміліся. Па-рознаму складваліся нашы адносіны. Шляхі-дарогі сыходзіліся (разам працавалі ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання) і разыходзіліся, былі паразуменні і непаразуменні.

Учора мы не высвятлялі, хто з нас у той ці іншы момант дзейнічаў правільна, а хто памыляўся. Гэта вырашыць гісторыя.

Я папрасіў А.Р.Лукашэнку прыняць мяне па адной прычыне: сітуацыя ў краіне складваецца такім чынам, што ў небяспецы можа апынуцца Беларусь. І не лёс, лёс нацыі, лёс народа залежыць не толькі ад Аляксандра Рыгоравіча. Многае, вельмі многае залежыць ад кожнага з нас.

Я, шчыра кажучы, не хачу, каб мы згубілі тое, да чаго, ахвяруючы жыццямі, імкнуліся нашы продкі на працягу многіх вякоў. Сёння Беларусь – незалежная, суверэнная краіна. На нашай зямлі мір і спакой.

На жаль, можа наступіць (ці ўжо наступіла?) чорная паласа з-за многіх абставін. Як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных. Аналізаваць, рабіць высновы трэба, але не час пасыпаць галаву попелам і не час распальваць варожасць адзін да аднаго. У цяжкі, складаны перыяд нам, як ніколі, патрэбна нацыянальная згода, дыялог, а не грамадзянская сутычкі. Усе спрэчкі, усе канфлікты цывілізаваныя людзі вырашаюць мірным шляхам. А я лічу, што мы, беларусы, – цывілізаваная нацыя. І, спадзяюся, пацвердзім гэта падчас чарговых выпрабаванняў.

У мяне сям'я, ёсць дзеці, унукі. Я працую з людзьмі, якім таксама ёсць чым даражыць. Штодзень чытаю рэдакцыйную пошту і востра адчуваю боль грамадства: не дай Бог, каб палыхнула наша зямля! Нам ні ў якім разе не трэба дапусціць тых жудасных падзей, якія ў апошнія гады паставілі на мяжу выжывання многія краіны, многія нацыі.

Мы не першыя апынаемся ў надзвычай складанай сітуацыі. Праз цяжкія выпрабаванні прайшлі многія народы. Пройдзем і мы. І добра было б, каб страты аказаліся найменшымі.

Падчас сустрэчы з Аляксандрам Рыгоравічам, а яна доўжылася амаль дзве гадзіны, я пераканаўся: як Прэзідэнт ён сёння не той, якім быў пятнаццаць-дваццаць гадоў таму. Нават, магчыма, не той, якім быў летась-пазалетась. Знаходзячыся ў руля ўлады, ён, як ніхто іншы, адчувае небяспеку, якая, калі не прымаць рашучых захадаў, можа навіснуць над краінай.

Ці ўсё залежыць ад яго? Многае, але не ўсё. Адзін у полі не воін. Сваё слова павінен сказаць народ, і толькі агульныя высілкі могуць даць станоўчы плён. Нас, беларусаў, амаль дзесяць мільёнаў. Велізарная сіла!

Як салідарызавацца і разам пераадолець тыя перашкоды, якія ўзніклі на шляху развіцця суверэннай Беларусі? Адказ на гэтае лёсавызначальнае пытанне я і шукаў у дыялогу з Прэзідэнтам А.Р.Лукашэнкам. Пераканаўся: у такіх жа пакутных пошуках і Аляксандр Рыгоравіч.

Усё часцей і часцей у выступленнях А.Р.Лукашэнкі гучаць словы, што не за гарамі той дзень, калі яго прэзідэнцтва наблізіцца да завяршэння. Але змена ўлады павінна адбыцца не праз крывавы майдан, не праз грамадзянскую калатнечу і не праз страту нашага самага найвялікшага здабытку – Незалежнасці. Адчуваецца, ён хоча перадаць краіну ў другія рукі не развалену, не са знішчанай эканомікай і жабрацкім дабрабытам людзей, а жыццядзейную, спакойную, суверэнную. Мірна, дэмакратычна, цывілізавана, а не праз барыкады і закалоты.

Пагадзіцеся, іншай альтэрнатывы ў беларусаў няма. Трэба разам знайсці шляхі выхаду з цяжкай сітуацыі, якая склалася ў апошнія месяцы. І вось тут наша размова выйшла на канкрэтныя варыянты магчымага агульнанацыянальнага дыялогу. Я, не паглыбляючыся ў дэталі, накідаў схему наконт таго, як, на мой погляд, можна арганізаваць работу "Нацыянальнага круглага стала". Прыклад многіх краін, у тым ліку і нашай суседкі Польшчы, сведчыць, што, калі дзяржава паўстае перад надзвычай цяжкімі выпрабаваннямі, яна павінна ў першую чаргу вырашыць лёсавызначальную праблему – салідарызаваць грамадства. Тут, дарэчы, трэба ўзгадаць народную мудрасць: адна галава – добра, а дзве – лепш. І я прапанаваў Аляксандру Рыгоравічу паспрыяць таму, каб самыя разумныя галовы Беларусі – няхай іх будзе сто, дзвесце – селі разам з прадстаўнікамі ўлады за адзін круглы ці квадратны стол і памазгавалі над праблемай, якая сёння хвалюе, трывожыць усіх, хто жыве ў Беларусі: як, пакуль не позна, адвесці тыя пагрозы, якія чорнымі хмарамі навісаюць над краінай? Ні я, ні Прэзідэнт не маем права ў гэты адказны час ставіць на першае месца свае асабістыя інтарэсы.

Падчас спакойнага, разважлівага дыялогу выйшлі на тэму адказнасці ўсіх галін улады за лёс Беларусі. Я выказаў думку, што "вертыкаль" як форма кіравання дзяржавай патрабуе карэннага рэфармавання. У сваю чаргу Аляксандр Рыгоравіч звярнуў увагу на тое, што наступіў час перагляду некаторых артыкулаў Канстытуцыі.

І, вядома ж, разважаючы з Прэзідэнтам, я не мог не выканаць даручэнне сваіх калег: давесці да Аляксандра Рыгоравіча інфармацыю, што ўсе ўжо колькі гадоў шэраг незалежных рэгіянальных газет пазбаўлены мясцовымі чыноўнікамі права свабодна распаўсюджвацца праз кіёскі, падпісныя каталогі, ёсць перашкоды з друкам. Сорамна, каб з-за такой дыскрымінацыі Беларусь на міжнародным узроўні шпілялі за ўціск СМІ, адсутнасць свабоды слова. Пачуўшы мае разважанні, А.Лукашэнка сказаў: "Лічыце, што ўсе сродкі масавай інфармацыі ў нашай краіне з сённяшняга дня будуць мець аднолькавыя правы".

Я пішу гэтыя радкі, а праз кожныя пяць-шэсць хвілін раздаецца тэлефонны званок, і мне задаюць адно і тое ж пытанне: "Як вы ацэньваеце сустрэчу з Прэзідэнтам?" Адказ такі: "Ужо тое, што яна доўжылася амаль дзве гадзіны, дае падставы зрабіць наступную выснову: яна была карыснай для двух бакоў – і для мяне, і для Прэзідэнта".

У першых радках ліста я падкрэсліў: сустрэча з А.Р.Лукашэнкам праходзіла з вока на вока. І гэтая акалічнасць таксама пра многае сведчыць. На жаль, ні газетная плошча, ні графік выхаду газеты не дазваляюць мне падрабязна спыніцца на кожным фрагменце нашага дыялогу.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты "Народная Воля".**

КАДРЫ

## У кіраўніцтве Мінгарвыканкама застаюцца тры вакантныя месцы

*Сталічныя ўлады чакаюць новых прызначэнняў.*

Нагадаем, у снежні мінулага года змянілі месца працы два намеснікі старшыні Мінскага гарвыканкама – **Ігар Карпенка** і **Уладзімір Кухараў**. Першы атрымаў пасаду міністра адукацыі, другі – намесніка старшыні Камітэта дзяржкантролю Беларусі. У студзені стала вядома, што і трэці намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Жанна Бірыч** пакідае пасаду і пераходзіць на пасаду намесніка дырэктара дэпартамента антыманапольнага рэгулявання Еўразійскай эканамічнай камісіі.

Да гэтага часу на сайце сталічных улад месцы былых намеснікаў застаюцца вакантнымі, а ў самім Мінгарвыканкаме не ведаюць, калі адбудуцца новыя прызначэнні.

*"Гэта не ад нас залежыць, – кажуць там. – Напэўна, узгадняюць кандыдатуры".*

**Віктар ШПАК.**

ПАСТФАКТУМ

## Без Раманчука

Прадстаўнікі ўлады не звязваліся з кіраўніком Навукова-даследчага цэнтра "Мізэса", эканамістам Ярославам Раманчуком пасля выказванай Аляксандрам Лукашэнкам прапановы ўключыць яго ў склад Савета па развіцці прадпрымальніцтва ў Рэспубліцы Беларусь і працоўнай групы па стымуляванні дзелавой актыўнасці. Пра гэта Раманчук паведаміў БелаПАН.

*"Нікуды не ўключылі, ніхто не тэлефанаваў і ніяк са мной не звязваўся. Прапанова прагучала публічна, але з таго часу не было ніякіх дзеянняў. Гэта сведчыць аб тым, што ёсць публічная рэальнасць, а ёсць жыццё, якое вельмі моцна адрозніваецца ад таго, пра што заяўляецца на прэс-канферэнцыях",* – адзначыў эканаміст.

Паводле інфармацыі Раманчука, другое пасяджэнне рабочай групы па стымуляванні дзелавой актыўнасці запланавана на сёння, 14 лютага. Атрымліваецца, што пройдзе яно без Раманчука.

НАДВОР'Е



## Зіма здае пазіцыі

*Тэмпература паветра ў Беларусі працягне павышацца.*

Як распавяла галоўны сіноптык Гідрамета **Святлана Рыбакова**, да канца тыдня будзе адліга.

**14 лютага (аўторак)** пад уплывам малаактыўнага атмасфернага фронту на значнай частцы тэрыторыі краіны пройдуць невялікія кароткачасовыя ападкі (мокры снег, месцамі з дажджом). Чакаюцца слабы туман, галалёд, на асобных участках дарог галалёдзіца. Вецер паўночна-заходні, парывісты. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -2...-8°С, пры праясненнях па паўднёвым захадзе краіны -9...-11°С, максімальная тэмпература днём -2...+ 2°С.

**15 лютага (серада)** ноччу яшчэ захаваецца ўплыў франтальнага падзелу, і ў многіх раёнах краіны пройдуць кароткачасовыя ападкі (мокры снег, дождж). Днём з ростам атмасфернага ціску будзе пераважна без ападкаў. Слабы туман і галалёд. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -1...-7°С, максімальная днём -3...+2°С.

**16 лютага (чацвер)** на фоне павышанага атмасфернага ціску будзе пераважна без ападкаў, толькі па поўначы пройдзе кароткачасовы снег, мокры снег, месцамі з дажджом. Слабы туман і галалёд. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -3...-9°С, пры праясненнях да -11°С; максімальная тэмпература днём -3...+3 °С.

Да канца працоўнага тыдня надвор'е ў Беларусі будуць вызначаць атмасферныя франты і цёплыя вільготныя паветраныя масы атлантычнага паходжання.

**17 лютага (пятніца)** ноччу пераважна па паўночназаходняй палове краіны, днём на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя ападкі (мокры снег, дождж), слабы туман і галалёд. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -1...-7°С, максімальная днём -2...+3°С.

**18–19 лютага (субота-нядзеля)** на большай частцы тэрыторыі краіны кароткачасовыя ападкі (мокры снег, дождж), слабы туман і галалёд. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -5...+2°С, максімальная днём -1...+5°С.

ПАЛІТКУХНЯ

## Раз'яднаныя маршы

*Апазіцыя не змагла дамовіцца аб правядзенні агульнай акцыі супраць дэкрэта «аб дармаедах».*

Днямі палітыкі **Уладзімір Някляеў, Мікалай Статкевіч і Яўген Афнагель** праінфармавалі гарадскія ўлады аб намеры правесці 17 лютага Марш абураных беларусаў.

*"У адпаведнасці з правам, гарантаваным артыкулам 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і падпісанымі нашай краінай міжнароднымі пагадненнямі, мы маем намер правесці 17 лютага акцыю на Кастрычніцкай плошчы Мінска. Пачатак у 18.00,* – напісалі аўтары ліста ў Мінгарвыканкам. – *Прапануем выканаць патрабаванні Канстытуцыі і забяспечыць беспярэшкоднае правядзенне мерапрыемства".*

Тым часам паведамлялася, што шэраг дэмакратычных арганізацый таксама плануюць правесці марш за адмену вышэйзгаданага дэкрэта, але 15 сакавіка. У аргкамітэт па правядзенні акцыі ўвайшлі Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя левых "Справядлівы свет", аргкамітэты па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", партыя "Надзея", Беларуская партыя "Зялёныя" і іншыя.

Чаму апазіцыя зноў не можа аб'яднаць свае намаганні?

*"Навошта аб'ядноўвацца, калі патрэбна як мага больш такіх мерапрыемстваў?* – распавёў "Народнай Волі" **Мікалай Статкевіч**. – *Адзіная праблема ў тым, каб акцыі праводзіліся, а не рабіўся выгляд аб жаданні іх зрабіць. Напрыклад, калегі-арганізатары падалі заяўку на правядзенне маршу 15 сакавіка, але ж яны, напэўна, выдатна разумеюць, што ўлады яго не дазволяць. А несанкцыянаваную акцыю, хутчэй за ўсё, праводзіць не будуць".*

*"Днямі мы прынялі рашэнне перафарматаваць аргкамітэт маршу як аднаразовага дзеяння ў кампанію "Мы – не дармаеды",* – дадае лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**. – *Гэта азначае, што актывізуем збор подпісаў за адмену дэкрэта і будзем праводзіць цэлую кампанію. І, калі не атрымаем санкцыю ад улад на марш, не адмовімся ад мерапрыемства, а правядзём яго ў тым фармаце, які не патрабуе адмысловага дазволу. Што тычыцца аб'яднання двух маршаў, то, можа, было б лепш, але і вялікай трагедыі ў сітуацыі не бачу. Бо ў нас розныя стратэгіі правядзення мерапрыемстваў. Мы зыходзім з таго, што нам трэба арганізаваць як мага больш новых людзей. Як правіла, "недармаеды" – гэта не актывісты нейкіх палітычных арганізацый. І запрашаць іх на мерапрыемства, на якое не падаецца заяўка, – гэта вельмі смела. А нам патрэбна не напалохаць тых людзей, якія адгукнуцца на наша запрашэнне. Мікалай Статкевіч і Уладзімір Някляеў абралі больш радыкальны падыход. Мы ж арыентуемся крыху на іншыя групы грамадства".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ТАМ, У НИХ



## Бердымухамедов переизбран президентом Туркмении

Гурбангулы Бердымухамедов останется президентом Туркмении на третий срок. Согласно данным ЦИК, его поддержали 97,69 процента голосов.

Кроме него баллотировались еще восемь кандидатов, у которых изначально не было шансов на победу. На участки, согласно официальным данным, пришло около 98 процентов избирателей.

Авторитарно правящий Туркменией Бердымухамедов занимает должность президента с 2006 года, когда умер его предшественник Сапармурат Ниязов. В сентябре прошлого года срок президентских полномочий увеличен с 5 до 7 лет, кроме того были упразднены возрастные ограничения для кандидата в президенты. Эксперты полагают, что 59-летний Бердымухамедов будет править страной пожизненно.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
14 ЛЮТАГА 2017 г.

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА



## Яна ЯРМАШЭВІЧ:

# «Мама, я лятаю!..»

*Пра тое, праз якія выпрабаванні часам даводзіцца прайсці юным спартсменам і чаму бацькі не баяцца аддаваць дзяцей у экстрэмальныя віды спорту, "Народнай Волі" распавядае 15-гадовая фрыстайлістка Яна ЯРМАШЭВІЧ і яе маці Вольга.*





Пра такіх, як Яна, кажуць – перспектыўная. Спартсменка ўпэўнена ішла ўверх па кар'ернай лесвіцы, пакуль лёс не падставіў ёй нагу: вясной мінулага года дзяўчына падчас трэніроўкі ў толькі што пабудаваным цэнтры "Фрыстайл" звалілася з трампліна. Далей яе чакала бальніца і сапраўднае выпрабаванне характару…

**Яна:** – У 6 гадоў я стала займацца акрабатыкай. Нават здала нарматыў на 1-ы дарослы разрад, але праз тры гады зразумела, што гэта не маё. Змяніла акрабатыку на фрыстайл.

**Вольга:** – Увогуле, дачка з трох гадоў займаецца – спачатку была мастацкая гімнастыка. Але і гімнастыка, і акрабатыка, і фрыстайл – усё гэта ўзаемазвязаныя віды спорту. Вось старэйшая дачка ў мяне больш творчы чалавек, а малодшую вырашыла аддаць у спорт. Можа, таму, што сама фізкультурай не асабліва захаплялася.

**Яна:** – У мяне стала атрымлівацца ў фрыстайле, а ў 13 гадоў упершыню паехала з камандай на зборы ў Чэхію. Дэбютавала на юніёрскім чэмпіянаце свету і дарослым этапе Кубка свету, які праходзіў у "Раўбічах", пасля чаго вясной пачала развучваць двухсальтавыя скачкі на трампліне комплексу "Фрыстайл". І ў адзін "цудоўны" дзень – падзенне амаль з шасціметровай вышыні. На разгоне лыжына паехала ўбок, я вылецела з трампліна. Далей усё, як у тумане, момант падзення амаль не памятаю. Адкрыла вочы – ляжу на насілках. Мне потым патлумачылі, што зламала нагу. Напэўна, усё-такі гэта была мая памылка…

**Вольга:** – Каб там была сістэма бяспекі такая ж, якой яе зрабілі пасля гэтага выпадку, то падзення не адбылося б. Дачка проста ўдарылася б у агароджу, і яе адкінула б назад. Яшчэ вялікае шчасце, што так усё абышлося. Яна звалілася ў басейн аквапарку. Калі б дачка ўпала на паўметра ў іншы бок, то яна трапіла б альбо на жалезную лесвіцу, альбо на кафельную плітку. З усімі наступствамі. Дарэчы, была ўзбуджана крымінальная справа па гэтым факце, але праз нейкі час яе закрылі. Тым больш што мы нікога не вінавацілі, а Яна прызнала сваю памылку.

**Яна:** – Трэнеры пасля інцыдэнту адразу ж патэлефанавалі маме, бо я ў той час знаходзілася практычна ў шокавым стане. Нават не разумела, колькі зараз часу. Мне сказалі, што ўжо прайшло дзве гадзіны пасля здарэння, а я гэтага нават і не заўважыла. Затым павезлі ў бальніцу…

У мяне быў двайны пералом. Зрабілі аперацыю, паставілі спіцу паміж косткамі, падвесілі на выцяжку. Два тыдні праходзяць, рэнтгенаўскі здымак глядзяць і кажуць: "Косці не зрастаюцца". Вось так і жыла ў бальніцы – ад здымка да здымка. Мяне павінны былі афіцыйна залічыць у нацыянальную зборную, але, натуральна, што гэтае пытанне адкладвалася. Ды і як яно магло вырашыцца, калі я амаль чатыры месяцы праляжала ў бальніцы?! Я там ужо была, як у сябе дома; 70 чалавек у маёй палаце змянілася. А праз некаторы час мой урач пайшоў у адпачынак, а яго змяніў другі. Пытаецца: "Не разумею, чаму цябе так доўга трымаюць?" За чатыры месяцы ў мяне ўжо нават мышцы пачалі атрафіравацца. У рэшце рэшт было прынята рашэнне зрабіць мне яшчэ адну аперацыю, якую правёў цудоўны хірург Аляксандр Георгіевіч Герасімаў. Разам з урачом Андрэем Мікалаевічам Балашам яны і паставілі мяне на ногі.

**Вольга:** – Падчас аперацыі ўнутр косткі Яне ўставілі стрыжань. Складаная была аперацыя, дачка страціла шмат крыві, а таму пасля два дні знаходзілася ў рэанімацыі. А калі яе ў палату вярнулі, то там ледзь не з кветкамі сустракалі! Медсёстры сказалі, што Яна ў іх бальніцы – рэкардсмен па знаходжанні. А ў аддзяленні як толькі яе не называлі – і "паханом", і "дзедам". Перажывалі літаральна ўсе! А праз некалькі дзён пасля гэтай аперацыі Яна ўжо хадзіла на мыліцах, уяўляеце?! Пасля была рэабілітацыя. Кожны дзень быў распісаны літаральна па хвілінах – ЛФК, праграванне, масаж, басейн, трэнажорная зала… Трэба было вучыцца хадзіць па-новаму.

Дарэчы, пакуль Яна была ў бальніцы, да яе практычна кожны дзень прыходзіў яе хлопец. Лёшу ведалі ўсе медсёстры, ён катаў дачку на ложку па калідоры, вазіў да люстэрка. У выхадныя наогул прыходзіў у 12 гадзін дня і сыходзіў толькі ў 10 вечара. І да яго прыходу Яна таксама заўсёды прыводзіла сябе ў парадак – падмалёўвалася, прыбіралася. Такія вось яны – светлыя юнацкія пачуцці.

**– Не было жадання пакінуць вялікі спорт назаўсёды пасля ўсяго таго, што адбылося?**

**Вольга:** – Многія ў нас пыталіся: "Вы што, збіраецеся вярнуць Яну ў фрыстайл?" І калі чулі станоўчы адказ, то проста круцілі пальцам ля скроні. А верылі ў яе вяртанне толькі трэнеры, я і псіхолаг з Аксакаўшчыны.

Дарэчы, за сем месяцаў да гэтага выпадку памёр мой муж, і ў дачкі пасля страты бацькі была псіхалагічная траўма. Пасля гэтага яна зламалася, нават нейкі час адышла ад спорту. Запрасілі прыватнага псіхатэрапеўта, ён працаваў з дачкой. Але ў выніку ад яго паслуг вымушаны былі адмовіцца, бо гэты чалавек пачаў унушаць Яне, што пасля траўмы яна павінна выкрасліць спорт са свайго жыцця. А вось псіхолаг у Аксакаўшчыне, наадварот, падтрымала нас. Сказала так: "У мяне была балерына, якая вярнулася ў тэатр пасля сур'ёзнай траўмы, хаця ніхто не верыў, што так будзе. І Яна таксама вернецца. Калі вы зараз не зробіце ўсё магчымае, каб вярнуцца ў вялікі спорт, усё жыццё затым будзеце пра гэта шкадаваць".

**Яна:** – І трэнеры таксама аказвалі добрую падтрымку. Дзмітрый Дашчынскі нават прынёс у падарунак сваю майку. Атрымалася так, што падчас выступлення на юніёрскім этапе Кубка свету нам выдалі форму нацыянальнай каманды, я папрасіла маму прынесці мне майку ў бальніцу. Але затым стала вядома, што форму трэба вярнуць. Вось Дзмітрый Дашчынскі, каб падтрымаць мяне, і прынёс сваю майку. Для мяне гэта была такая маральная падтрымка!

**Вольга:** – Я вырашыла адназначна: Яна вяртаецца ў спорт. Праўда, у дачкі з гэтай нагоды былі перыяды ваганняў і нават істэрыкі. Казала, што баіцца скакаць, што ёй страшна зноў падымацца на трамплін. Але я яе паспрабавала пераканаць.

**Яна:** – Калі ўжо стала на ногі і пачала наведвацца ў Цэнтр фрыстайла, у мяне зноў загарэлася любоў да гэтага віду спорту. Глядзела, як усе скачуць з трампліна, і было крыўдна ад сваёй бездапаможнасці. Але зараз, крок за крокам, я іду наперад. Пакуль яшчэ не скачу на лыжах з трампліна, але ўжо займаюся на батуце. З мамай ездзілі пакатацца на горных лыжах у Букавель. Стрыжань у костцы будзе стаяць як мінімум да лета, але, паводле слоў урачоў, скакаць можна будзе і з ім.

**Вольга:** – І ведаеце, з якой гары каталася разам са сваімі сяброўкамі? З той, што для экстрэмалаў, – ледзяной. Ды яшчэ і задам наперад!..

А ўвогуле, многія не разумеюць, як бацькі могуць аддаваць дзяцей у такі небяспечны від спорту, як фрыстайл. Мне нярэдка казалі: "Мамаша, вы што, ненармальная?" А чаму ненармальная? Да 13 гадоў дзеці, якія пайшлі ў фрыстайл, наогул не скачуць з трампліна. Яны займаюцца на батуце, катаюцца на горных лыжах, ходзяць на харэаграфію, у трэнажорную залу і басейн. Гэта ж агульнафізічнае развіццё, і ўсё бясплатна. А ў 13 гадоў ваша дзіця і трэнеры ўжо самі вырашаць, ці патрэбна станавіцца прафесійным спартсменам. Напрыклад, лепшая сяброўка Яны адзін раз скокнула з трампліна і сказала: "Да пабачэння, гэта не маё". Вы ведаеце, чаму Яна сышла з акрабатыкі? У 9 гадоў дачка важыла 22 кілаграмы, і ёй сказалі, што яна тоўстая. А ў гэтым узросце дзеці ўжо выступаюць на спаборніцтвах, трэба вагу трымаць на патрэбным узроўні. У фрыстайле іншыя правілы.

**– І ў вас не сціскаецца сэрца, калі глядзіце, як скача ваша дачка?**

**Яна:** – Я не люблю, калі мама назірае за маімі выступленнямі. Хвалявацца пачынаю. Але, калі ты ўзлятаеш пад самае неба, гэта вельмі крута.

**Вольга:** – Натуральна, у фрыстайле ёсць свае рызыкі. Аднойчы дачка прыязджае да мяне на працу, кажа: "Ты толькі не глядзі на мяне". А ў яе на ўвесь твар – крывавая баявая афарбоўка. Гэта так няўдала прызямлілася тварам аб снег. Але ж калі не падаеш, то на веласіпедзе катацца не навучышся.

Раней мы пастаянна ездзілі ў "Раўбічы", каб пабалець за дачку, а пасля спаборніцтваў я ў яе пыталася: "Табе не страшна?" Яна мне адказвала так: «Мама, ты нічога не разумееш. Я лятаю!" І гэтым было сказана ўсё. Таму я веру і ў дачку, і ў яе перамогі. Яны абавязкова будуць!

**Алесь СІВЫ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Домрачава і Б'ёрндален «падкруцілі» прыцэлы

*Герой Беларусі заваявала медаль праз 4 месяцы і 12 дзён пасля нараджэння дзіцяці.*




Напярэдадні чэмпіянату свету, які зараз праходзіць у Аўстрыі, "Народная Воля" прагназавала, што **Дар'я Домрачава** на гэтых спаборніцтвах рэальна можа прэтэндаваць на свой першы медаль пасля нараджэння 1 кастрычніка мінулага года дачкі Ксеніі. Як у ваду глядзелі! Калі падчас мінулых стартаў Домрачава не магла справіцца з хваляваннем падчас стральбы, то ў мінулую нядзелю 20 стрэлаў з 20 прыйшліся ў "яблычак", што прынесла беларускай спартсменцы сярэбраны медаль сусветнага першынства ў гонцы праследавання.

Больш за тое! У гэты ж дзень заваяваў бронзавы медаль і муж Домрачавай – нарвежац **Оле-Эйнар Б'ёрндален**, які на чатырох агнявых рубяжах толькі адзін раз не патрапіў у мішэнь. Так што над стральбой сям'я папрацавала добра!

Дарэчы, Домрачава і Б'ёрндален прыехалі ў Аўстрыю з маленькай дачушкай, яе даглядае няня. А сёння, наколькі вядома, дапамагчы спартсменам прыедзе і Ларыса Аляксееўна – маці трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі.

"*У мяне добрая дзяўчынка, дае мне выспацца*, – распавяла сама спартсменка. – *Перад гонкай я толькі некалькі разоў прачыналася, каб пакарміць яе*".

"*Віншуем цябе, мама! Мы ганарымся табой!*" – напісаў Домрачавай яе муж.

"*Супертата! Вялікі чалавек!*" – напісала Б'ёрндалену яго жонка.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МАЗАІКА

## З кім згуляе зборная?

*Футбольная зборная Беларусі згуляе таварыскі матч з камандай Новай Зеландыі.*

Як паведамляе прэс-служба Беларускай федэрацыі футбола, гэта будзе хатні таварыскі паядынак, які пройдзе 12 чэрвеня.

Напярэдадні стала вядома, што зборная Беларусі згуляе 28 сакавіка ў Скоп'е таварыскі матч з Македоніяй.

## Глядзім футбол…

*У Беларусі з'явіцца тэлевізійны футбольны канал.*

Савет клубаў вышэйшай лігі вырашыў стварыць новы тэлевізійны канал, з рэгістрацыяй новай юрыдычнай асобы ТАА «БК-Сетанта-Спорт» у якасці СМІ, з працоўнай назвай «БК-Сетанта».

Мяркуецца, што канал будзе паказваць усе матчы вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі ў жывым эфіры і HD-якасці. Сваю работу канал плануе пачаць ужо вясной гэтага года.

## Малайчынкі!

*Беларускія тэнісісткі ўпершыню ў гісторыі выйшлі ў 1/2 фіналу Кубка Федэрацыі.*

У паўфінале беларускі сустрэнуцца са зборнай Швейцарыі. Матч пройдзе ў Мінску 22–23 красавіка.

Напярэдадні зборная Беларусі перамагла каманду Нідэрландаў – 4:1. У складзе нашай зборнай выступалі **Аляксандра Сасновіч**, **Арына Сабаленка**, **Вольга Гаварцова** і **Вера Лапко.**

## Дабудоўваюць

*На рэканструкцыю сталічнага стадыёна «Дынама» сталічныя ўлады плануюць выдаткаваць сёлета з гарадскога бюджэту 150 мільёнаў рублёў.*

Работы на аб'екце плануецца завяршыць у 2018 годзе. Мяркуецца, што ў 2019 годзе на «Дынама» адбудуцца цырымоніі адкрыцця і закрыцця другіх Еўрапейскіх гульняў.

ШАХМАТЫ

## Фавориты и не только

Чемпионом Беларуси по шахматам 2017 года стал гроссмейстер Алексей Фёдоров. Перед началом турнира он не был в числе явных фаворитов, но ход турнирной борьбы сложился в его пользу. На втором месте – Кирилл Ступак, на третьем – Сергей Азаров. У женщин бесспорным лидером была гроссмейстер Настасья Зезюлькина, которая в итоге уверенно выиграла турнир. Второе место у Ланиты Стецко, третье – у Яны Ильючик. Приведем по победной партии новых чемпионов страны.

**Александр Кочеев – Алексей Фёдоров.** 1.e4 c5 2.c3 Kf6 3.e5 Kd5 4.d4 cd 5.Kf3 e6 6.cd d6 7.Cc4 Ce7 8.0–0 0–0 9.Kbd2 b6 10.Лe1 Cb7 11.a3 de 12.de Kd7 13.Ke4 Фb8 14.Cd3 g6 15.Kg3 Лd8 16.Cc4 Фc7 17.Фe2 Лac8 18.b3 b5 19.C:d5 C:d5 20.Kd4 a6 21.Cb2 Kc5 22.Фe3 K:b3 23.Лad1 Ka5 24.Фh6 Kc4 25.Cc1 K:e5 26.Cf4 f6 27.Ke4 Фb7 28.Kg5 fg 29.C:e5 C:a3 30.Ф:g5 Лf8 31.Лe3 Cc1 32.h4 C:e3 33.fe Фf7 34.Kph2 Лc4 35.h5 Лa4 36.Лc1 Лa2 37.Фh6 C:g2 38.Kf5 Ce4+, 0:1.

**Настасья Зезюлькина – Маргарита Храпко.** 1.e4 c5 2.Kf3 Kc6 3.d4 cd 4.K:d4 g6 5.c4 Kf6 6.Kc3 d6 7.Ce2 K:d4 8.Ф:d4 Cg7 9.Ce3 0–0 10.Фd2 a5 11.Лd1 Ce6 12.0–0 a4 13.f4 Фa5 14.Cd4 Лfc8 15.b3 ab 16.ab Фb4 17.f5 Cd7 18.C:f6 C:f6 19.Kd5 Ф:b3 20.fg fg 21.Л:f6 ef 22.K:f6+ Kpf7 23.K:d7 Лc6 24.e5 Лa2 25.e6+ Kp:e6 26.Cg4+ Kpe7 27.Фg5+, 1:0.

## Памяти коллег

В этом году могли бы отметить юбилеи известные белорусские шахматные композиторы, которых, к сожалению, уже нет с нами: **Степан Цырулик** (1927–1997), **Лев Тамков** (1937–1997), **Леонид Пальгуев** (1937–2006), **Евгений Двизов** (1937–2012), **Владимир Тиханков** (1947–2013). Но остались их композиции, а также память и восхищение ценителей «поэзии шахмат»… Вот один из призовых этюдов Евгения Двизова.

**Белые:** Kph8, Фa4, Лc6, пп. f5, g3, h5 (6).

**Черные:** Kpg5, Фh1, пп. a7, b2, b7, d4, e6, g7 (7).

**Выигрыш.**

Решение: 1.Л:e6! Ф:h5+ 2.Kpg8! b1Ф 3.Ф:d4 Ф:f5 4.Лg6+! Kp:g6 5.Ф:g7x, 4… Фf:g6 5.Фf4x, 4… Фh:g6 5.Фh4x.

А задача на диаграмме принадлежит Льву Тамкову, который ярко проявил себя не только в шахматах: он был заслуженным архитектором Беларуси.



**Белые:** Kpb1, Лc3, Лf1, Cd3, пп. b2, b3, d6, e4, f2 (9).

**Черные:** Kpd1, Ce1, пп. b6, c6, d2, d7, f3 (7).

**Мат в 4 хода.**

Присылайте решения на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: **vadim_ne67@mail.ru.**

## Заморский конкурс

Марокканская королевская федерация шахмат организует 3-й конкурс составления в четырех разделах: двухходовки (задачи нужно присылать на адрес **ubenjelloun@outlook.fr**), трехходовки и многоходовки (**vidadi_zamanov@mail.ru**), задачи на кооперативный мат в 2 хода (**jamalelbaz6@gmail.com**). К участию приглашаются и белорусские составители. Крайний срок подачи задач – 30 сентября 2017 года.

## Проверьте решения

Задача Н.Быкова от 24 января решается так: **1.Ca1**. Первыми правильные ответы прислали И.Ананич (Гродно) и В.Жукович (Минск).

**Вадим ЖИЛКО.**

Лучший подарок на 8-е марта!
швейная машинка Multi UFR-403!
Ограниченное количество по низкой цене с ПОДАРКОМ!
Компактная и удобная швейная машинка Multi станет отличной помощницей в вашем доме! Подложить брюки, пришить заплатку, отремонтировать одежду и многое другое вы теперь сможете сами. Машинка надежна, практична и проста в работе. С ней вам не нужен опыт швеи!
Лучший подарок для Вас и Ваших близких!
Функции:
• 3 прямые строчки
• 6 зигзаг-строчек
• реверс
• регулировка натяжения нити
• свободный рукав
В комплекте:
• иголки
• нитковдеватель
• 2 шпульки
• педаль и адаптер
• инструкция на русском языке
Цена: 125.00 руб. -15% скидка 105.00 руб.
назови кодовое слово «8 марта» и получи скидку 15%!
+Подарок:
• 32 катушки ниток
• 32 шпульки с нитками
• 2 наперстка
• ножницы
• сантиметр
• вспарыватель
• нитковдеватель
• иголки
Заказать по тел.: +375(29) 621-11-15
www.oferta.by
Пункт самовывоза: г. Минск, ул. Матусевича, 58-182
Гарантия 12 месяцев!
Доставка по Беларуси. Доставка по Минску — в день заказа или на следующий день. По Беларуси согласно графику доставки РУП «Белпочта». Стоимость доставки по Беларуси согласно тарифам РУП «Белпочта». По Минску уточняйте по телефонам. Оплата при получении товара.
Производитель: AFE and TD CO, LTD, HEFEI CHINA. ЧТУП «АмтекЛогистик» УНП 191870343





Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ
Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 13.02.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 466.